# НАВІНКІ

Серада, 30 сьнежня 1998 № 8 Кошт свабодны

Без надзеі на будучыню. Глыбокі эканамічны крызыс у БНР 4

Навагодні падарунак для нашых чытачоў. Каляндар на 1999 год 6

Эксклюзіў нумару: Аўдыёзапіс трэцяга дня саміту ў Віскулях 8

Прыёмны пакой. Чытачы запытваюцца – рэдакцыя адказвае 10










## асаблівасьці нацыянальнай сустрэчы Новага Году

Палітычныя бандыты зноў перайшлі ў атаку. На гэты раз рубеж наступу на канстуцыйны парадак - часовыя перабоі з прадуктамі і чэргі. Чэргі, маўляў, ўяўляюць сабою тыповы інгрэдыент прапагандысцкай ахінеі дэмакратаў. Для іх яны ёсьць адначасова сымбаль народных пакут і прадвесьнік палітычнага перавароту. Што ж, дамо апазыцыянэрам баламуціць лахоў і далей, і паспрабуем паглядзець на фэномэн чэргаў зь іншага гледзішча.

Чэргі ня толькі не зьніжаюць ступень лаяльнасьці мас да рэжыму, але наадварот, сымбалізуюць сабою народнасьць (а значыць і стабільнасьць) Лукашэнкі. Чарга – гэта найстарэйшая сацыяльная мадэль аўтарэпрадукцыі чалавецтва. Хіба ў старажытныя часы дагістарычныя людзі, забіўшы маманта або яшчэ нейкую істоту, разьмяркоўвалі тушу жывёлы па прынцыпу свабоднай рынкавай эканомікі? Безумоўна ж не! Чэргі маніфэстуюць сабою архітрадыцыйныя каштоўнасьці, загнаныя ў падсьвядомасьць на нейкім этапе культурагенэза. Яны нагляднa цэмэнтуюць такія прынцыпы як калектывізм, салідарнасьць і справядлівасьць. Акрамя таго чарга уяўляе сабой айчынную форму камунікацыі, накшталт пабаў, кнайпаў ці чайханы. Рэзюмэ - людзі хочуць стаяць у чэргах. І не на якія пернікі кшталту рынкавага «изобилия», ім гэтага кайфу не кампэнсуюць. У чэргі, сукіны дзеці!

# МІНІ-НАВІНКІ

## Багдадзкае рэха

Рэха багдадзкіх бамбардзіровак у прамым сэнсе слова даляцела і да нашай старонкі. Адна з шасьці крылатых ракетаў, што былі выпушчаныя з амэрыканскага крэйсэра ў Пэрсідзкай затоцы зьбілася з курсу й заляцела на Беларусь.
Ракета прызямлілася ў калгасе «Рассвет», што на Мядзельшчыне акурат на сарай калгаснага стоража Зьміцера Забродзкага, кіраўніка мясцовай філіі БНФ, забіўшы казла Борку. Вядома, што Борка - не чалавек, а жывёла, але эфэкт выбуху ад гэтага ня стаў меншым. Узьнялася ўся грамадзкасьць вёскі. Бліжэй да абеду, калі стала канчаткова вядома, што ранішні выбух – не чарговая акцыя Беларускага Вызвольнага Войска, а агрэсіўная амэрыканская акцыя, каля сельмагу сталі зьбірацца ўзбуджаныя людзі.



Перадсьмяротнае фота нябожчыка Боркі

Яны пасталі вакол гаспадара Боркі, каб у дваццаты раз паслухаць ягоны экзальтаваны расказ: «Выйшаў, значыцца, я зранку козьліка на выган прычапіць. Глядзь: замест сараю – дзірышча ў зямлі вона якая. Тут-та я й прыгадаў, што ўначы пярун нейкі быў. Хацеў паглядзець, ды мая старая адгаварыла. Сядзі, кажа, дома, страры хрэн...» Аднасяльчане спачуваючыківалі галовамі. Мужыкі, даведаўшыся, што ў Забродзкіх «забамбілі» казла, паціралі рукі ў прадчуваньні грандыёзнай п'янкі.
Між тым, на сельскай ваколіцы ўзьняліся клубы пылу і ў натоўп на поўнай хадзе ўварваўся мініаўтобус з гарадзкой агітбрыгадай. Малойчыкі з «рафіку» хуценька арганізавалі мітынг, на якім выступілі старшыня калгасу, кіраўнік мясцовай ячэйкі БПСМ, іншыя афіцыйныя асобы. Лейтматыў выступаў і грамадзкіх настрояў быў адзінагалосным: «Толькі саюз славянскіх дзяржаваў забясьпечыць нашай мясамалочнай прамысловасьці бясьпеку і мір». Спроба гаспадара нябожчыка арганізаваць альтэрнатыўны мітынг была перадухіленая сіламі правапарадку.

## Гульні НХЛ з Прэзыдэнтам

Падобна на тое, што ў новым 1999 годзе мы можам згубіць свайго глыбокапаважанага Прэзыдэнта. Сьпяшаемся супакоіць чытачоў: гаворка ня йдзе ні пра які дзяржаўны пераварот, рэвалюцыю, ці, чаго горш, перавыбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Нашага Прэзыдэнта папросту купілі.
Як стала вядома з прэс-рэліза Міністэрства Хакею А.Лукашэнка пакіне Беларусь на некалькі месяцаў, каб прыняць удзел у гульнях НХЛ у асноўным складзе канадскага клюбу «Калґары Флэймз», зь якім А.Лукашэнка заключыў кантракт тэрмінам на 1 год. Легіянэр А.Лукашэнка будзе граць левага скрайняга. Пакуль што невядомая сума кантракту, але ўжо заяўлена, што ўсе грошы будуць накіраваная на стабілізацыю беларускага рубля.
Разам з Лукашэнкам у «Калґары Флэймз» будзе граць Павел Бурэ. Як заявіў у інтэрвію часопісу «Hockey of Canada» Пол Гэйтс, трэнэр каманды, гэта вельмі ўдалы набытак для клюбу. «Мы даўно адсочваем пэрспэктыўных хакеістаў у СНД. І безумоўна нашы агенты не маглі прайсьці міма такога форварда, як Лукашэнка. Мы паклалі на яго вока год таму пасьля яго памятнага матчу ў Яраслаўлі , дзе зборная беларускага ураду з сухім лікам размалаціла каманду мясцовага губэрнатара. Прычым, як вы напэўна зразумелі лепшым на пляцоўцы быў ваш прэзыдэнт, які амаль бесьперашкодна тараніў абарону праціўніка й закідваў шайбы». Паглядзеўшы відэазапіс гульні кіраўніцтва клюбу было ў захапленьні. Іхняе рэзюмэ было катэгарычным: «Бярыце яго за любыя грошы – і Кубак Стэнлі ў нас у кішэні». Былі безумоўна праблемы з трансфэрам, бо А.Лукашэнка акрамя ўсяго геніяльны футбаліст і шэраг эўрапейскіх клюбаў кшталту «Рэала» або «Інтэру» хацелі таксама запалучыць такога самародка. Але ж канчатковае слова засталося за «Калґары Флэймз».
«Дзякуючы дуэту Лукашэнка-Бурэ, я ўпэўнены, нам удасца нацерці задніцу янкі й забраць у гэтым годзе Кубак Стэнлі» - выявіў свае спадзяваньні Гэйтс.
Што ж, будзем спадзявацца, грамадзяне Беларусі, замест таго, каб соўгацца па крамах, правакуючы ажыятаж на прадукты харчаваньня, будуць больш часу праводзіць ля блакітных экранаў, шчыра перажываючы за Першага прэзыдэнта, Першага хакеіста краіны і Першага беларуса, які грае ў Заходняй Канфэрэнцыі НХЛ.




## Подзьвіг разьведчыцы

Выключны падарунак прыпаднесьлі самі сабе беларускія чэкісты з нагоды 80-годзьдзя КГБ. Нашчадкамі «жалезнага Фэлікса» была завершаная доўгатэрміновая апэрацыя «Сэкс у пустыні», сэнс якой палягаў ў ліквідацыі сьмярцельнага ворага беларускай дзяржаўнасьці – прэзыдэнта ЗША Б.Клінтана. Яшчэ тры гады таму, калі сталі канчаткова відавочнымі антыбеларускія матывы дзейнасьці амэрыканскай адміністрацыі дэмакратаў, адмысловы аддзел КГБ па барацьбе са зьнешняй пагрозай, распрацаваў канкрэтны плян, мэтай якога была нэйтралізацыя Прэзыдэнта ЗША. Першапачаткова прапанавалася энтрыяваць у структуры Белага Дому нашу разьведчыцу, якая мусіла падкласьці ў ложак Клінтану бомбу. Але зь цягам часу плян быў скарэктаваны – было вырашана маральна раскласьці кліента вычварэнскім сэксам. Выкарыстоўваючы гэты факт, не складала цяжкасьцяў справакаваць буйны грамадзкі скандал, які павінен быў падвесьці сэксуальна заклапочанага правадыра сусьветных жандараў пад імпічмэнт. Бліскучы плян пачаў рэалізоўвацца ўвесну 1996-га. Тады пад відам дысыдэнта-дэмакрата, у стан амэрыканцаў быў закінуты сакрэтны агент КГБ No 017-284-50-12 (паводле зразумелых




прычынаў мы ня можам адкрыць ягонае сапараўднае імя). Мужнаму разьведчыку было ня цяжка ўвайсьці ў давер да амэрыканскіх спэцслужбаў. Хутка перад ім адчыніліся ўсе дзьверы Капітолію. Якраз ён і парэкамэндаваў прэзыдэнту на кандыдатуру сакратаркі адну сваю добрую знаёмую Моніку, якая праходзіла ў файлах КГБ як Марыя Максімаўна Ісаева – выпускніца францускага факультэту МГЛУ, выдатніца, спартсмэнка, сябра БПСМ і асьведамляльніца па 2-ім інтэрнаце «ін'язу» на Варвашэні. У Клінтана ня ўзьнікла нават і ценю сумневу, якую сьвіньню яму падкладае пакутнік за дэмакратыю. Прэзідент ЗША, хоць і быў выключнай асобай, але адразу клюнуў на кароткую спадніцу, размаляваныя вусны і кустодыеўскія контуры новай супрацоўніцы. Ў сьнежні 1996-га Клінтан запрасіў яе да сябе ў кабінэт нібы для того, каб прадыктаваць артыкул «Палітыка ЗША на Балканах у кантэксьце глябальнага пацяпленьня». Адпаведна атрыманым у Менску інструкцыям, Моніка для выгляду трохі паламалася, а потым прафэсійна пачала расшпіляць распорак клінтанавых штаноў. У той жа дзень на стол шэфу КГБ Мацкевічу паклалі шыфроўку зь Нью-Ёрку: «Мікі-Маусу. Кліент гатовы. Заказвайце дзіч. Дональд». Службовы раман рэактыўна разьвіваўся. Клінтан усё часьцей, адаслаўшы мымру Олбрайт і нуднага віцэ-прэзыдэнта Гора куды-небудзь падалей у Кангрэс або на Блізкі Ўсход, замыкаўся з Монікай у Авальнай Залі. Зразумела, што ў вадападзе экстазу Клінтан дазваляў сабе казаць шмат лішняга, і беларуская разьведка знаходзілася ў курсе ўсіх справаў амэрыканскай зьнешняй і ўнутранай палітыкі. Амурная гісторыя паміж амэрыканскім прэзыдэнтам і беларускай Мата-хары працягвалася да сярэдзіны 1997-га, пакуль выключныя міжнародныя абставіны прымусілі беларускаму ўраду аддаць Моніцы загад аб канчатковай нэйтралізацыі Клінтана. На наступны ж дзень Моніка заявіла ва ўсіх СМІ, што Прэзыдэнт ЗША ў пасьцелі як бервяно. Джын імпічмэнту быў выпушчаны з бутэлькі.
Што да Марыі Ісаевай, то ёй прысвоена званьне падпалкоўніка. Адна зь менскіх школ будзе цяпер насіць яе імя.

## Не адчыняйце Санта-Клаўсам!

Яшчэ ў дзіцячых садках і школах пэдагогі намагаліся ўцерці нам у мазгі брыльянтавую ісьціну, што адчыняць дзьверы каму пападзя ня варта.
Але, відаць іхныя намаганьні сышлі ў пясок. Гэта ўсё да таго, што зь сярэдзіны сьнежня ў Менску арудуе выключна нахабная група апазыцыянэраў, што спрабуе каваць сабе зьмену сярод самых маленькіх прадстаўнікоў нашага грамадзтва.
За кошт вэрбоўкі маладафронтаўскіх бушыбузукаў, дэмакратычныя афэрысты стварылі некалькі соцень брыгадаў Санта-Клаўсаў, што па вечарах тэрарызуюць кватэры гораду сваімі «віншаваньнямі». Нажаль, як правіла, усе дзьверы перад імі адчыняюцца. Званок - «Хто там?» - З новым годам! На парозе бліскучы дзед у бел-чырвона-белым тулупе і сьнягурка з сіяніcцкай шасьцікутнай зоркай. Кажуць, што прыйшлі павіншаваць дзіця з навагоднімі сьвятамі.
Слаба ідэалягічна падкаваныя бацькі не адчуваюць падвоху і фактычна самі аддаюць свайго малога на духоўнае згвалтаваньне. Далей пачынаецца сапраўдная оргія. Дзед садзіць дзіця на калені і пачынае цікавіцца пытаньнямі кшталту: «Калі скажаш, у якім годзе была Аршанская бітва, дам сьнікерс», «А ты ведаеш, што зорка на ялінцы значыць амэрыканскі штат» і г.д . Тым часам пігаліца дэкляруе брудныя рыфмы кшталту:
« Уроню я мишку на пол,
Оторву-ка мишке лапу.
Дам ему еще по роже.
Он москаль, он нехороший».
А падарункі! Гэта, як правіла надуўныя Клінтаны, складная мазаіка мапы Эўрапейскага Саюзу, кубікі, зь якіх адзінае, што можна пабудаваць, гэта дыпляматычны комплекс у Драздах і да т.п. Зразумела, глупая маляўка з радасьцю прыймае ворах імпартных прэзэнтаў. Затое потым, калі на навагодні ранішнік у дзіцячы садок прыйдзе наш айчынны Дзед Мароз, ён плюне яму ў бараду й скажа: «Благі ты, дзед. Вось у Санта-Клаўса сапраўдныя падарункі, а твае карамелькі засунь сабе ў попу». Што вырасьце з такога малога ня цяжка ўявіць. У лепшым выпадку палітычны маргінал, які ні ў грош ня ставіць інтарэсы айчыннага рынку. А ўсяму віною бацькі, якія адкрывалі дзьверы ўсім устрэчным папярэчным.

Такога кшталту «віншаваньні» разносяць дзецям Санта-Клаўсы



# без надзеі на будучыню




## Рэаліі капіталістычнай Беларусі

Падзеі апошніх тыдняў даказваюць, што сыстэма г.зв. «рыначнага капіталізму» абрэчаная на цыклічныя крызысы і дэпрэсіі. Адносная стабілізацыя, якая назіралася ў эканоміцы БНР напрацягу апошніх 5 месяцаў, зьмянілася на абвальнае падзеньне тэмпаў вытворчасьці. Крызыс, які патрас абсалютна ўсе галіны гаспадаркі, адкінуў Беларускую Народную Рэспубліку на ўзровень 1918 году.

Янка Запруднік ня еў ужо пяць дзён. Ён даўно забыўся як выглядаюць звычайныя бульбяныя чыпсы «Зянон» і вымушаны гадзінамі калупацца ў кантэйнэрах для сьмецьця або паляваць за пустымі піўнымі бляшанкамі каля ўваходу ў цэнтральны McDranic's. Цяжка падумаць, што гэты чалавек яшчэ месяц таму быў асьлеплены ілюзіямі свабоднага рынку і хуткага абагачэньня на спэкуляцыі акцыямі. «Ху мог падумаць, што гэтыя мазэфакеры з гавэрмэнту створаць столькі траблаў нашаму простаму піплу. Цяпер я ня маю флэту, жыву на стрыце. Онлі, што мне застаецца, гэта задрынчыць віскі «Гаўляйтэрскія» і нагрузіцца ў дып дрым,» - ў засмучэньні кажа Янка.
І ў такой сытуацыі як Янка апынуліся мільёны шараговых беларусаў.
Прычынай таму - бяздарная эканамічная палітыка ўраду БНР на чале з прэзыдэнтам Івонкай Сурвілай, якая прыйшла да ўлады на хвалі антыкамуністычнага угару 4 гады таму. Абвесьціўшы курс на пабудову «рыначнага капіталізму», мадам Сурвіла адразу ж пачала наступ на правы працоўных. Гэтак, была адмененая 3-я Устаўная Грамата БНР, распушчаны дэмакратычна абраны Сойм, унесеныя антырабочыя папраўкі ў Кодэкс аб працы, забароненыя страйкі і дэманстрацыі і г.д. Безумоўна, манэтарысцкая палітыка, якую праводзіць кабінэт Сурвілы, дала на пэўны час стабілізацыю эканомікі, чым выклікала ілюзіі наконт заўтрашняга дню сярод прадстаўнікоў сярэдняе клясы. Але такая сытуацыя не магла трываць бясканцова.

Крах на Менскай Народнай Біржы ў сьнежні 1998 году абвесьціў пачатак эканамічнага крызысу. Беларускі талер трохі пахістаўшыся на графіку валютных каціровак і пачаўшы быў троху падымацца, праз гадзіну ўпаў адразу на 1342 пункты. А яшчэ праз паўгадзіны быццам бракаваныя прэзэрватывы пачалі лопацца самыя стабільныя банкі краіны – «Антыбальшавіцкі Крэдыт», «Паліцай-Банк», і інш.
Гіпэрінфляцыя набрала страшэнныя абароты. Бохан хлеба каштуе зараз 1 мільён талераў. Уведзеныя ў абарачэньне купюры па100, 500 мільёнаў і 1 мільярд талераў.
Дэстабілізацыя ў галіне фінансаў найбольш балюча ўдарыла па працаўніках сяла. Ужо ў сярэдзіне восені быў відавочны крызыс перавытворчасьці ў такіх галінах прамысловасьці як вытворчасьць яек, мяса-малочнай прадукцыі і інш. Фэрмэры ўжо неаднаразова праводзілі акцыі пратэсту на пл. Незалежнай Калябарацыі. Яны разьбілі каля мілёна яек і вылілі больш за 1000 літраў малака, якія не знайшлі свайго пакупніка.
У сваіх бясканцовых інтэрвію па Ці-Ві мадам Сурвіла звальвае ўсю адказнасьць за правал сваёй эканамічнай праграмы на проіскі камуністычнай апазыцыі, якая дэстабілізуе сытуацыю ў краіне.
Беды і праблемы простых людзей мала кранаюць таўстаскурых алігархаў. Яны працягваюць як быццам ні ў чым не бывала піць каву «Кубэ» і шампанскае «Антысавецкае», наведваць дэкадэнцкія кабарэ Бум-Бам-Літу і чытаць на ноч аўтамабільную газэту «Наша Ніва». Будучы паводле сваёй прыроды вытанчанымі дэндзі, гэтыя людзі вельмі проста трактуюць вытокі крызысу перавытворчасьці: «Народ сам вінаваты. Працаваць трэба менш!» Дарэчы, аналіз найбольш салідных буржуазных выданьняў таксама не выходзіць за рамкі клясавых эмоцый. Напрыклад, самая масавая газэта краіны «Дэмакратычная Беларагча» піша, што эканамічны крызыс справакаваны камуністамі, якія клічуць масы да бэнзапілаў.

# Апазыцыя падымае галаву



Сталіца БНР Менск-Беларускі – горад кантрастаў. Раскошныя хмарачосы суседзяць з трушчобамі жабракоў.

Пад уплывам эканамічнага крызысу яшчэ больш абастрыліся клясавыя супярэчнасьці ў краіне. Узмацніліся пазыцыі Камуністычнай Партыі Рабочых і Сялянаў пад кіраўніцтвам Шчукіна, які зьяўляецца рэальным прэтэндэнтам на пост прэзыдэнта БНР.

Шматмільённая маніфэстацыя, арганізаваная кампартыяй 22 сьнежня, прайшла па праспэкце Паліцаеў і завяршылася мітынгам пратэсту ў Парку імя 50-годзьдзя Беларускай Краёвай Абароны.

Рэфармісцкія прафлідэры з г.зв. «свабодных прафсаюзаў» ганебна здрадзілі рабочым і капітулявалі перад манаполіямі. Такую ж пазыцыю занялі і сацыял-дэмакраты, лідэр якіх былы харунжы падводнага флоту БНР Марцылевіч намагаецца шляхам буржуазнага рэфарматарства ўтрымаць працоўных ад масавых рэвалюцыйных выступаў і замацаваць дыктатуру манаполіяў.

Традыцыйнай практыкай жоўтых прафсаюзаў і сацыял-рэфармісцкіх партыяў стала правядзеньне «усенародных акцыяў пратэсту», што на самой справе ніколі не выходзяць далей за кабінэты прафбоса Каровіна.

Іншая справа – Радыкальная Фэдэрацыя Прафсаюзаў Беларусі, якая зьяўляецца сябрам анархасындыкалісцкага Інтэрнацыяналу AIT. Узначальвае РФПБ просты манцёр-электрык Лех Ганчарык. Ён і яго таварышы заклікаюць людзей выходзіць з афіцыйных прафсаюзных арганізацыяў і самаарганізоўвацца на плятформе рэвалюцыйнага сындыкалізму.

Яшчэ адной са стыхійных формаў пратэсту супраць прэзыдэнцкага цемрашальства стаў масавы запіс у грамадзянства БССР – ліпавай дзяржавы, створанай у 1919 годзе бальшавікамі. За ажыятажам вакол чырвоных пашпартоў БССР стаіць Камуністычная Партыя Беларускага Народу пад кіраўніцтвам Брыкіна, якая адкрыта арыентуецца на «ўрад БССР у выгнаньні», які пасьля прыходу саюзных кайзэраўскіх войскаў зьбег на ўсход, спачатку ў Маскву, а потым абаснаваўся ў Пэкіне, дзе і празябае да сёньняшняга дня без аніякіх пэрспэктываў.

# Беларусь–Амэрыка: інтэграцыйныя працэсы

Гістарычны досьвед першай і другой сусьветных войнаў падсказвае правячым у БНР буржуазным колам адзіны магчымы выхад з актуальнай крызыснай сытуацыі – зрабіць ногі за кардон у ЗША. Акрамя таго, існуе яшчэ адзін дадатковы рэзон як мага хутчэй пакаваць чамаданы. Гэтая падстава – пачатак працэдуры імпічмэнту Клінтана, што надаў беларускаму кіраўніцтву неабмежаваныя амбіцыйныя настроі.

Прэзыдэнт БНР Івонка Сурвіла сур'ёзна марыць стаць наступным амэрыканскім прэзыдэнтам і першай лэдзі ЗША ў адной асобе. Пасьлядоўны аптымізм Сурвілы наконт свайго бліскучага будучага небеспадстаўны. У ЗША, асабліва на ўзроўні апазыцыйных Клінтану рэспубліканцаў, Сурвіла карыстаецца іміджам прынцыповага апанэнта рузвэльтаўскай традыцыі дзяржаўнага кантролю над эканомікай. Найбольш закаханыя ў Сурвілу губэрнатары штатаў на месцах. Да таго ж, беларускі лідэр настолькі пасьлядоўна адстойвае агрэсіўныя канцэпцыі зьнешняй палітыкі ЗША кшталту «Амэрыка – для амэрыканцаў», што можа даць сто пунктаў наперад самому Бжэзінскаму.

Гэтак, зусім нядаўна пад час бамбардзіровак у Іраку БНР выслала ў рэгіён канфлікту эскадрылью цэпэлінаў, нягледзячы на тое, што ніхто пра гэта яе не прасіў. (Ня дзіва, што ўсе цэпэліны былі выпадкова зьбітыя амэрыканскімі ракетамі.)

Акцыя ў Пэрсідзкай затоцы падштурхнула палітычную кліку БНР да прарыву на палітычную арэну ЗША. Для ўдзелу ў надыходзячай прэзыдэнцкай гонцы ёй бракуе самую маласьць – амэрыканскага грамадзянства. Таму зараз перад Сурвілай рубам стаіць пытаньне інтэграваць БНР у склад Паўночна-Амэрыканскай Фэдэрацыі. Першы крок у гэтым кірунку можна лічыць зробленым. Днямі ў Белым Доме быў падпісаны дагавор аб паступовым пераходзе абедзьвюх краінаў да адзінай валюты – амэрыканска-беларускага даляру. У пэрспэктыве плянуецца стварэньне новага саюзу дзьвюх краінаў - Злучаныя Рэспублікі Народнай Амэрыкі і Штатаў Беларусі ці нешта кшталту таго. Дасягнутая таксама й дамоўленасьць наконт разьмяшчэньня на тэрыторыі БНР амэрыканскай ядзернай зброі. «Ва ўмовах пастаяннай пагрозы з боку чырвонага Кітаю, мы ня можам і надалей заставацца без надзейнай абароны брацкай Амэрыкі» – пракамэнтавала гэты аспэкт мадам Сурвіла ў інтэрвію інфармацыйна-аналітычнай праграме «Дыліжанс».

Праамэрыканскім крокам можна лічыць і той неабвержны факт, што ў БНР паўсюдна насаджаецца любімая гульня прэзыдэнта – баскетбол. Усім вядома, што мадам Сурвіла большую частку свайго вольнага часу прысьвячае кіданьню мяча ў кошык з трохмэтровай адзнакі. Дзякуючы ейнаму апякунству беларускія каманды па баскетболу будуць браць удзел у гульнях NBA. ●

# НАВІНКІ

## Шаноўны чытач!

Гэты каляндар на 1999 год дапаможа табе правільна сплянаваць надыходзячы год. Пазначай, калі ласка, кружком крытычныя дні нашага грамадзтва. Вельмі зручны гэты каляндар і ў вызначэньні дзяржаўных пераваротаў ці датаў прэзыдэнцкіх выбараў.

### СТУДЗЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ат | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Нд | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |

### ЛЮТЫ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | | |
| Ат | 2 | 9 | 16 | 23 | | |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | | |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| Пт | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | | |
| Нд | 7 | 14 | 21 | 28 | | |

### САКАВІК

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ат | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| Пт | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | | |
| Нд | 7 | 14 | 21 | 28 | | |

### КРАСАВІК

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ат | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | | |
| Нд | 4 | 11 | 18 | 25 | | |

### ТРАВЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ат | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Пт | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Нд | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

### ЧЭРВЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ат | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Чц | 3 | 10 | 17 | 24 | | |
| Пт | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| Нд | 6 | 13 | 20 | 27 | | |

### ЛІПЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ат | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| Нд | 4 | 11 | 18 | 25 | | |

### ЖНІВЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ат | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Нд | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

### ВЕРАСЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ат | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Пт | 3 | 10 | 17 | 24 | | |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| Нд | 5 | 12 | 19 | 26 | | |

### КАСТРЫЧНІК

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ат | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Нд | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |

### ЛІСТАПАД

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ат | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | | |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| Пт | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | | |
| Нд | 7 | 14 | 21 | 28 | | |

### СЬНЕЖАНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ат | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Пт | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| Нд | 5 | 12 | 19 | 26 | | |

1999

# ПРЭЗЫДЭНТА трэба зьвяргаць зь ЛЮБОЎЮ

## РЭХА ПАДЗЕІ

# Антысавецкая змова: Радзіма за сто грам

Напярэдадні сумнага юбілею развалу СССР у нашую рэдакцыю трапіла унікальная стужка з запісам апошняга дня саміту ў Віскулях лідэраў трох саюзных рэспублік. Яна падымае заслону над закулісным і сцэнамі, на якіх выносіўся сьмяротны прысуд Савецкаму Саюзу. Прапануем вам стенаграфічны запіс фанаграмы. Просім прабачэньне за некаторыя прабелы, выкліканыя дрэннай якасцью стужкі.

## Віскулі, 10 сьнежня 1991 г. 6.00 раніцы

*(На заднім фоне гучыць трансьляцыя гімну СССР)*
**Радыё:** Саю-уз неруши-ы-ымый риспу-ублик свабо-одных....
**Дыктар:** Гава-арит Масква! Московское время шесть часов. Передаём последние известия. Продолжает свою работу историческая встреча лидеров славянских респу...
**Першы голас** *(цяжка дыхаючы , раздражнёна)*: Да вырубите вы иво, в самом деле, на хрен, панимаишь...
**Другі голас:** Одну мынуту, Борысу Мыколаевычу.
*(Трансьляцыя прыпыняецца)*
**Першы голас** *(стогнучы)*: Где йта я... Кто йта?..
**Другі голас:** Та що вы, Борысу Мыколаевычу, чи не познали? Це ж я, Лёня!
**Першы голас:** А-а-а... Я думал, шта-а-а этат, как иво... Ну бульба который...
**Другі голас:** Стасик? Та ни-и! Стасик в туалэте, погано йому. Писля вчерашнего. Может вам водички з-пид крану? Дужо помогае!
**Першы голас** *(грозна)*: Да ну т-тя с твоей водицей, бандеровская морда!.. Смерти моей хочешь... Вчера балычек-та весь кто умял?!
**Другі голас:** Та вы що! Во вам трезуб истинный, що не я. Стасик все это. Он горилку не хотел пить. Говорил, що профессор, доктор наук.
**Першы голас:** Так пусть этот доктор, панимаишь, за лекарством бежит! Эй, придурок-ядерщик!..
*(Чуецца цяжкі тупат босых ног)*
**Трэці голас** *(недавольна)*: Ну вот так всягда, как што, так Стасик. Вчера я ходил, позавчера тоже я! Давайця па-чэснаму. Мы же все тут савецкия людзи!
*(Рогат)*
**Другі голас:** Ты это Мишке Горбачеву скажешь, фызик хренов.
**Першы голас:** Точно, панимаишь! Давай, метнись на станцию за догоняловом. Возьми пару литров, этава, спирту, значит,.. фортепьяну.
**Другі голас:** Не фортепьяну, рояль.
**Першы голас:** Ай-шь, какая разница. Главное – быстра!
**Трэці голас:** Ну чыво.вы. ..

*(абрыў стужкі)*

*(чуюцца тры нецьвярозыя галасы, сьпяваюць)*
**Галасы:** ...Ра-а-аствует со-о-озданный во-о-олей наро-о-ода...
**Трэці голас:** Ну, братцы, за едзиный-магучый, как гаварат у нас у Беларусии!
**Першы голас:** Вздрогнули.
*(чуецца бульканьне вадкасьці)*
**Другі голас:** Писля пятой и шестой перерывчик небольшой. Ну, за велыкую Русь!
*(зноў бульканьне)*
**Трэці голас:** Ребя, хотите анекдот! У нас в Верховном Совете есть чувак такой, усцацца! Во фракции демократических коммунистов – и за незалежность, и про права человека. В президенты, говорит, хочу. А сам – колхозан колхозаном!
*(усе сьмяюцца)*
**Першы голас:** Помню тожи как-то, залажу, значит, на танк – и давай: права человека и прочие... Даже по телеку показывали. До сих пор, панимаишь, вспомнить стыдно!
**Другі голас:** А у нас у Кыеве, е таки Кучма. Из лохов днепропетровськых...
**Першы голас:** Ладно, не п...ди, панимаишь. Наливай давай.
*(бульканьне)*

*(абрыў стужкі)*

**Трэці голас:** ...Ня буду я с вами гулять. Как можно с вами гулять, когда у тебя, Леонид, восем тузов у колоде!..
**Першы голас:** А кто будет махлевать, таво будем бить, панимаишь, по ивоной хохляцкой морде.

**Другі голас:** Ребята, да вы ж меня знаете. Та, щоб наш родный Советский Союз ляснулся, якщо я хоч раз пидману.
**Першы голас:** Ну ты, значит, смотри у меня.
(шурхаценьне картаў)
**Трэці голас:** Так, на што играем?
**Другі голас:** На пиявки.
*(паўза)*
**Трэці голас:** Еще?..

*(абрыў стужкі)*

**Першы голас:** У меня очко.
**Другі голас:** У меня тэж знову. Ну карта мне идет сьогодни. Себе Стасик?
**Трэці голас:** Перебор, у меня. Снова 30 очей.
**Першы голас:** Значит проиграл.
**Трэці голас:** Пачакайце. А аткудава взялся второй пиковый туз?
**Другі голас** *(шчыра)*: Звидкы я знаю. Ты ж сам тасовал.
**Першы голас:** Ну ладно, Стасик, крутить. Не огорчайся. Это же, панимаишь, игровой процесс. Да это не больно.
**Другі голас:** Подставляй лоб. Сейчас я тебе мокрую пропышу. Трымайтэ его, Борысу Мыколаевычу. Стасик, считай.
*(чуюцца шчаўчкі)*
**Трэці голас:** Адзин, два, тры... ой, ну што ты так сильно!.. Дванаццаць, трынаццаць...
**Другі голас:** Стоп, сорвалось, не считается.
**Трэці голас:** Какое не считается!..
**Першы голас:** Не считается, я тожи видел.
**Трэці голас** *(цярплiва)*: ..Дваццать восем, двацццаць дзевяць, трыццаць...
**Другі голас** *(задаволена)*: Ну, всё, аж рука устала.
**Першы голас:** Давай тасуй...

*(абрыў стужкі)*

*(булькан ьне)*
**Першы голас** *(наяжджаючы )*: ...Совок уважаешь?! Эй, хохол, я к тебе обращаюсь!
**Другі голас:** За Совок и за хохла ответишь!..
*(чуецца звон бітых бутэлек)*
**Трэці голас:** Ребята, ребята! Ну што вы, нужно толерантнее быть! Давайте лучше споем. Саю-уз нерушы...
*(глухія ўдары па нечым мягкім і лысым)*
**Другі голас:** Ух ты, комуняцька морда! Мой батька, когда у Петлюры служил, таких как ты!...
**Першы голас:** Да-а-а, панимаишь, такие пи..дюки как ты, Стасик, царя-то батюшку и расстреляли!
**Трэці голас** *(хліпаючы носам)*: А я!.. А мы... А вы у нас мову адняли!!!
**Другі голас** *(узрушана)*: Брось нож, нож брось, говорю! Стасик, це ж мокруха!.. Борька, бежи!
*(грукат ног, гукі баруканьня і вазьні)*
**Першы голас** *(удаляючыся)*: Ты у меня, бульба, получишь, панимаишь. Щас я, значит, корешей с заставы приведу.
**Трэці голас** *(гістэрычна)*: Пусти меня, пусти! Я ему шчас за всё, за тарашкевицу, за Чернобыль!.. Верни Смоленск, падла!
*(падае нешта цяжкое, б'ецца шкло, чуюцца енкі і стогны)*
**Другі голас** *(прымірэнчым тонам)*: Да ладно, Стасик, успокойся. Што с него взять. Это же москали голимые. А ты, Стасик, настоящий мужык. Надо было ему еще по его рылу кацапскому врезать.



Падпісаньне дагавору аб утварэньні Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў. Традыцыйны бакал шампанскага замацоўвае дружбу між суседзкімі брацкімі народамі.

*(хліпаньні і неразборлівыя пагрозы ў нечый адрас)*
**Другі голас** *(таямніча)*: Пойдем, базар есть.
**Трэці голас** *(супакойваючыся)*: Яки яшчэ базар?
**Другі голас:** Ты же знаешь, як я тэбэ поважаю. Давно я маю таку думку: утворити в нашому Союзи незалежные державы. Представляешь, я и ты, как два настоящих генсека! На черных волгах, в выдровых шапках!..
**Трэці голас:** А ты не падманеш?
**Другі голас:** Ну ты ж меня знаешь. Вось тут у меня и бумажка есть – «Декларация о создании Содружности Незалежных Держав». Это тебе не эбонитовой палочкой молекулы чесать. Соглашайся!
**Трэці голас** *(сумнеўна)*: А как же Михаил?
**Другі голас:** Это этот-то халявщик с Фороса?! Да ну його! Он и сюда норовил на хвост подсесть.
**Трэці голас:** А Барыска?
**Другі голас:** Борька спьяну и не такую бумажку подпишет.
**Трэці голас:** Ну добра... Говоришь, шапка выдровая...
**Другі голас:** Ось и домовылысь. Давай за СНД.
*(булькан ьне)*
**Трэці голас:** Ну... я дажа ня знаю...
**Другі голас:** Давай-давай, не кони!
*(скрыпеньне дзьвярэй)*
**Першы голас:** Ладно вам, дуться, панимаишь. Давайте помиримся. Я вот и литруху, значит, прихватил...

*(канчатковы абрыў стужкі)* ●

# ПРЫЁМНЫ ПАКОЙ

## Увага: Таталітарная сэкта!

***Апошнім часам я не магу пазнаць сваіх сыноў: замест таго, каб палоць грады ці пасьвіць каровы, альбо гуляць у хакей, яны ходзяць на нейкія падазроныя сходы. Хлопцы сталі млявымі і абыякавымі. На ўсе мае пытаньні я чую ад сыноў, што яны выконваюць загады звыш, а калі будуць паслухмянымі, дык атрымаюць па асобнай кватэры і добрай пасадзе ў будучым Царстве нябёсным. Што нам рабіць?***

***БАЦЬКА.***



Перш чым стаць членамі сэкты, бэпээсэмаўцы-нэафіты праводзяць доўгія часы ў аскезе, посьце й маленьнях

Калі ваш сын ці дачка апавядае аб тым, што ў нашай краіне эканамічны росквіт, ужывае ў размове такія неўласьцівыя нашаму мэнталітэту словы, як «интеграция», «оперотряд», «патриотизм», калі дабраахвотна імкнецца ісьці ў войска і калі ў вас з хаты зьнікаюць каштоўныя рэчы, а потым ваш нашчадак паведамляе, што яны зь сябрамі зьбіралі грошы на зэнітку для ірацкіх школьнікаў, ведайце: вашае дзіця трапіла ў кіпцюры эзатэрычных экстрэмістаў з БПСМ*!

БПСМ вэрбуе ў свае шэрагі няўпэўненых у сабе маладых людзей, якія ня маюць асабістых поглядаў і лёгка паддаюцца чужому ўплыву. У апошні час шчупальцы БПСМ дабраліся да школ, ВНУ, СПТВ. Існуе адпрацаваная тэхналёгія. У навучальнай установе ў якасьці эмісаркі сэкты зьяўляецца сарамліва-сэксапільная дзяўчына. Вакол гэтай «цнатлі́ўкі» пачынае групавацца сэксуальна-заклапочаная моладзь (пераважна мужчынскага полу). Хлопцы не пасьпяваюць і міргнуць, як аказваюцца зазамбіраванымі выканаўцамі волі Севы-Дзевы, ці нават рабамі на сельскагаспадарчых угодзьдзях сэкты.

Але якой бы моцнай не была псыхічная залежнасьць ад сэкты, спэцыялісты-псыхолягі сьцьвярджаюць, што выратаваць маладых людзей, трапіўшых пад пагубны ўплыў фанатыкаў, магчыма з дапамогай калектыўнай псыхатэрапіі. Некалькі паходаў маладога БПСМаўца ў гастраном па яйкі, цукар ці масла — і вы яго не пазнаеце. Чарга - найлепшы лекар . Каб замацаваць посьпех, паспрабуйце стварыць для хворага добрую псыхалягічную атмасфэру ў хаце: ніякага тэлебачаньня альбо радыё (асабліва беларускага). Рэкамэндуецца праслухваньне запісаў гурта «Beatles» тры разы ў дзень. Калі вы будзеце кіравацца нашымі парадамі - вынік не прымусіць сябе доўга чакаць. ●

**ДАСЬЕ «НАВІНАК»**

*БПСМ (Баптысцкая пратэстанцкая сэкта манафісітаў) узьнікла ў 1996-1997 гадах спачатку ў буйных гарадах Беларусі, а потым і на пэрыфэрыі. БПСМ зьяўляецца арганізацыяй закрытага тыпу з выразнай герархічнай сыстэмай, суровай дысцыплінай і безумоўным падпарадкаваньнем шараговых членаў сэкты свайму кіраўніцтву. Узначальвае БПСМ сумна вядомы ґуру па мянушцы Сева-Дзева (паралельная рэінкарнацыя Сёку Асахары). Зьвестак аб БПСМ вельмі мала, вядома толькі, што сэкта строга закансьпіраваная: ніхто ня ведае чым яна займаецца на самой справе. Аднак дакумэнтальна зафіксаваныя факты рытуальных ахвярапрынашэньняў падчас дзікунскіх малебнаў сэкты. Вядомыя выпадкі, калі ахвярамі крывавых рытуалаў былі падманутыя сябры Маладога фронту мармонаў, якія прыходзілі ў БПСМ у якасьці місіянэраў, каб прапаведваць Вучэньне Незалежнасьці і Адраджэньня.



Гэтага хлапца лёгка адрозьніць ад ягоных аднагодкаў. Яму ўсяго 17, але ягонае жыцьцё ўжо скончылася. Праца, вучоба, каханьне – усё гэта ён адкінуў, бо ў ягоным жыцьці зьявіліся гэтыя «тры літары»

## Наркотыкі забіваюць вашых дзяцей

***Добры дзень, шаноўная рэдакцыя. З маёй дачкой адбываецца нешта няладнае. Апошнім часам я пачала заўважаць, што яна стала больш нэрвовай, яе раздражняе радыё і тэлебачаньне. На ейным стале я знайшала нейкую падазроную кніжку «Ды Джэй Беларушчыны». Бывала, што яна зьнікала з дому й непаяўлялася па некалькі сутак. А нейк пасьля мітынгу яна скардзілася, што ёй ломіць сьпіну. Можа вы ведаеце, што зь ёй адбываецца? Памажыце, калі ласка!***

***МАЦІ***

Ломка – адзін з галоўных прызнакаў таго, што вашая дачка – наркаманка. Праблема наркаманіі сапраўды востра стаіць у нашым грамадзтве. Наркатычныя рэчывы рознага кшталту зьнявольваюць усё больш маладых беларусаў.

Мяркуючы па сымптомах, апісаных у лісьце, вашая дачка ўжывае біякіслотны нэйрастымуляцыйны рэляксаніт (скарочана БНР*) – адзін з самых моцна

дзейных прэпаратаў зь сямейства амфэтамінаў. Ён адносна нядаўна зьявіўся ў нашай краіне. Ахвярамі новай атруты, безумоўна становяцца моладзь і падлеткі. Шмат хто, напэўне, назіраў за наступнымі сцэнамі на дыскатэках Маладога Фронту. У залю, дзе адбываецца дыскатэка МФ, урываецца дзяўчына. Валасы ўскудлачаныя, у рухах адчуваецца нейкая нэрвовасьць. Яна падбягае да аднаго з ахоўнікаў: «Дзе тут можна набыць вершы Бабкова, Акудовіча, або іншых маладых беларускіх паэтаў». Звонку - звычайны маналёг звычайнай бібліяфілкі. Але, дзяўчынка – зусім не аматарка паэзіі. Проста каварныя дылеры такім хітрым спосабам маскіруюць продаж свайго сьмяротнага тавару. Папярэднік БНР – ЛСД распаўсюджваўся ў выглядзе марак і прамакатак, для БНР практыкуецца іншы шлях. Кніжкі, старонкі якіх прапітаныя БНР. Сярэдні кошт «сшытка» – $350. Гэтага хапае сярэдняму тарчку ўсяго на месяц.
Пачуўшы словы дзяўчынкі, ахоўнік хітра падміргвае: «Бабкоў ужо скончыўся, але ёсьць «Архе». Сапраўдная рэч. Башку адразу адрубіць». Дзяўчынку чамаданіць. Яна нэрвова пералічвае заціснутыя ў кулаку зялёныя купюры НБ РБ. «Але ж... у мяне толькі 150. Можа ў доўг. Апошні раз! Я магу і ў ложку адпрацаваць!..» Асобы, якія ўжываюць БНР, гатовыя на ўсё, каб дастаць грошай на чарговую дозу. Яны займаюцца крадзяжом, спэкуляцыямі, падрабляюць на дэманстрацыях апазыцыі і г.д. Гэта, безумоўна вядзе да павелічэньня злачыннасьці.
Апошнім часам ужываецца й больш даступная дазіроўка наркотыку – улёткі. Так, звычайныя апазыцыйныя ўлёткі з запрашэньнем наведаць дэманстрацыю альбо пікет, якія каштуюць усяго па 1-2$ за «аркуш». Адну дозу (старонку кнігі альбо ўлётку) звычайна намочваюць у цёплай вадзе й прыляпляюць як гарчычнік на сьпіне, жываце альбо пад мышкай. Некаторыя асабліва заторканыя нарыкі спрабуюць жаваць, але прыходу яны чакаюць над парашай.
Выхад асабліва цяжкі: чалавеку ломіць сьпіну, суставы, адчуваецца боль у нырках, часам баліць горла. У некаторых выпадках – галавакрут і страта прытомнасьці. Асобы, якія знаходзяцца ў наркатычным ап'яненьні прэпаратам БНР зрокава станоўча рэагуюць на спалучэньне белага й чырвонага колераў, і ў тойсама час варыяцці чырвонага зь зялёным іх прыводзіць у разьюшанасьць. Ім паўсюль трызьняцца збройныя вершнікі на белым кані, што прызнаецца вядучымі нарколягамі краіны за сымптомы бел-чырвона-белай гарачкі. Усе асобы, якія падазраюцца ва ўжываньні БНР стаяць на асобым уліку ў наркалягічным аддзяленьні пры Камітэце Дзяржаўнай Бясьпекі. ●

**ДАСЬЕ «НАВІНАК»**
*БНР (біякіслотны нэйрастымуляцыйны рэляксаніт) - сынтэтычнае наркатычнае рэчыва сямейства амфэтамінаў. Упершыню быў сынтэзаваны ў 1918 годзе нямецкім хімікам Вільгельмам Варонкам. Быў выпрабаваны кайзэраўскімі войскамі на Усходнім фронце. Шырока ўжываўся гітлераўцамі пад час Другой сусьветнай вайны. Пасьля разгрому Нямеччыны формула прэпарату трапіла ў рукі амэрыканцаў. З дапамогай дывэрсантаў перапраўляўся на тэрыторыю Савецкага Саюзу пад час Халоднай вайны. Выкарыстоўваўся для атручваньня калодзежаў і вадаправодаў.
Уводзіцца ў арганізм унутрывенна, праз кантакт са скурай альбо праз страўнікава-кішэчны тракт. Узьдзейнічае шляхам узбуджэньня нэрвовай і апорна-рухальнай сыстэмы. Пасьля прыёму прэпарату чалавек агрэсіўна сябе паводзіць, сьвісьціць, выкрыквае лёзунгі, перашкаджае праезду грамадзкага транспарту і г.д. У наркамана, які стала ўжывае БНР, назіраюцца расстройствы страўніку, на целе зьяўляюцца сінякі й крывападцёкі. Наркатычнае ап'яненьне, выкліканае БНР, можа трываць ад 3 да 15 сутак. Наркамана ў стане наркатычнага ап'яненьня варта неадкладна ізаляваць ад грамадства да паўнага працьверазеньня.

# «Хачу пазнаёміцца з Ды-Джэем Адраджэньнем...»

***Прывітаньне, «Навінкі». Піша вам пэнсіянэрка, вэтэран працы Васіліса Максімаўна Збароўская. Нягледзячы на свой узрост (мне 36 год) я адчуваю сябе падлеткам: я люблю танчыць, слухаць музыку (асабліва мне падабаюцца NRM, Уліс, Новае Неба і інш.), малюю (калі ня танчу й ня слухаю музыку).***
***Нядаўна мне трапіла на вочы брашурка «Ды Джэй Адраджэньня», якая мне вельмі спадабалася. Скажыце, хто аўтар брашуры і як мне зь ім пазнаёміцца? (высылаю фота)***

***ВАСІЛІСА***



Паважаная Васіліса Максімаўна, з задавальненьнем выконваем Вашую просьбу.
Павал Адраджэньня – адзін з самых модных на сёньня ды-джэяў у Беларусі сярод школьнікаў і навучэнцаў ПТВ. У адрозьненьні ад чыста дыскатэчных Ды-Джэя Каня ці Ды-Джэя Квакіна, Ды-Джэй Адраджэньня спэцыялізуецца на правядзеньні віктарынаў, чым прыводзіць у захапленьне падлеткаў.
Адраджэньня – вораг папсы й вялікі аматар элітарнай, экспэрымэнтальнай музыкі. Такіх гуртоў, якія вы пачуеце на ягоных сэйшнах, вы не пачуеце больш нідзе. Адпаведна й публіка на яго зьбіраецца канкрэтна альтэрнатыўная. Шмат якія дыскачы скончаліся мардабоем, разгромам залі, біцьцём вокнаў і г.д. Але гэта ўсё толькі на руку скандальнай славе Адраджэньні.
З папулярным ды-джэем можна зьвязацца праз тэлефон: (017) 284-50-12. Спытаць Адраджэньню. ●

**ДАСЬЕ «НАВІНАК»**
Адраджэньня Павал Міхалавіч – нарадзіўся ў Віцебску ў 1976 годзе ў сям'і грузінскіх геолягаў, якія атрымалі разьмеркаваньне ў Беларусь.
Скончыў Віцебскую кансэрваторыю па клясе віктарына. Ляўрэат прэміі імя Валадарскага па народных сьпевах. За сваю альтэрнатыўнасьць вымушаны выступаць на плошчах, вуліцах, у спортзалях, школах. Часта выступае ў дыскатэцы «У Зянона». Кіраўнік харэаграфічнага ансамблю «Плахішкі». Аўтар шматлікіх падручнікаў па ды-джэйнай справе. Калекцыянуе Беларушчыну.




# НАВІНКІ: У НАС

## ЗЬБІРАЕЦЦА ЎСЯ ЭЛІТА

Абсалютна незалежная газэта “НАВІНКІ” Заснавальнік Павал Каларадзкі; галоўны рэдактар гер Нямчук; пры творчай падтрымцы менскага контар-культурнага бомонду. За недакладнасьць пададзеных матэрыялаў рэдакцыя адказнасьці не нясе. Тыраж 299 экз. На правах рукапісу.